# ІСКРЫ ІЛЬІЧА



1 МАЯ








МІЖНАРОДНАЕ
СЬВЯТА ПРАЦОЎНЫХ
УСЯГО СЬВЕТУ!

№ 4




*Верш дзяткора*

ЯЗЭПА ЖАГАЛКОВІЧА

Сінічка-невялічка
Па галінках скакала,
Сабе есьці шукала,
Ды сіло спаткала.
А дзеці ў хаце сядзелі,
Праз вакно глядзелі.
— Гэй, сінічка, глядзеце!—
Закрычалі ўсе дзеці.
І бягом ляцяць,
Каб сінічку забраць.
Сінічку забралі
Ды ў клетку загналі.
Сінічка засумавала,
Ні ела, ні сьпявала.
Дзецям шкода стала...
Тады ўзялі дзеткі
Адчынілі клетку.
Сінічка паляцела
І весела запела.

## ЧАХАРДА З ПРЫГОДАМІ

*(жарт)*







ШТОМЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ ДЛЯ МЕНШЫХ ДЗЯЦЕЙ

# ІСКРЫ ІЛЬІЧА

ОРГАН ЦК ЛКСМБ і НАРКАМАСЬВЕТЫ

Год выданьня 2-гі

Умовы падпіскі:

| | |
|---|---|
| На 1 месяц | 15 к. |
| На 3 м-цы | 45 к. |
| На 6 м-цаў | 90 к. |
| На 1 год | 1 р. 80 к. |

№ 4 Красавік 1930 г.

Адрас рэдакцыі і конторы: МЕНСК, КОМСАМОЛЬСКАЯ, 25




*Сёньня радасьць поўніць грудзі,*
*Сёньня людзі, ўсюды людзі...*

*Сёньня вольны Май цьвіце,*
*Сёньня сьвята ўсіх дзяцей!*

# 1-е МАЯ—СЬВЯТА ПРАЦОЎНЫХ.

Кожны год дзеці разам з бацькамі і ўсімі старэйшымі радасна сустракаюць і праводзяць 1-шы Май. Няма такога другога сьвята для дзяцей, як 1-шы Май. Вясна, многа сонца, цёпла і прыгожа...

Але ці ўсе дзеці ведаюць—чаму мы сьвяткуем 1-е Мая? Мусіць, не.

Ужо вельмі даўно рабочыя пачалі дамагацца ад багатых уладароў фабрык палёгкі і правоў. Праца на фабрыках была пакутнаю справаю. Чалавек ня мог вытрымліваць такой цяжкой працы. Рабочыя ўзьнімалі голас протэсту супроць эксплёатацыі.

Але вядомая рэч, што адзін чалавек нічога ня можа зрабіць, нічога не даб'ецца. Яго за сьмелае слова, за протэст закуюць у кайданы, кінуць у брудную турму ці пашлюць на катаржную работу.

Змагацца з уладарамі фабрык за свае правы рабочыя здольны толькі тады, калі яны будуць добра згуртаваны. Тады іх сіла становіцца магутнай сілай, страшнай і сьмяртэльнай сілай для багатых.

І вось для свае арганізаванай барацьбы з буржуазіяй рабочыя ўсяго сьвету выбралі ў гаду адзін пэўны дзень—1-е Мая.

Чаму рабочыя выбралі днём арганізаванага выступленьня на барацьбу з буржуазіяй усяго сьвету дзень 1-га Мая? У гэты дзень—1-га Мая—у 1868 г. адбылася ў Амэрыцы адна з вялікіх забастовак. Вось чаму гэты дзень стаў памятным для працоўных, як дзень змаганьня за лепшае жыцьцё, за зьнішчэньне дармаедаў-буржуяў.

Праз колькі год, калі рабочыя ўжо мелі сваю арганізацыю, яны пры вызначэньні агульнага дня барацьбы і ўспомнілі забастоўку амэрыканскіх рабочых.

40 гадоў таму назад у 1890 г. упяршыню працоўныя ўсяго сьвету адсьвяткавалі 1-е Мая. Страх ахапіў буржуазію перад гэтым днём. Бо ў гэты дзень было пастаноўлена спыніць усю

ДЗЕЦІ ПРАЦОЎНЫХ УСІХ НАЦЫЙ—НАШЫ СЯБРЫ.



Татарын і грузін.



Татарка і самаедка.

З таго часу 1-е Мая кожны год было днём барацьбы працы з капіталам. Сотні і тысячы забітых і параненых рабочых застаецца кожны год пасьля сьляткаваньня на вуліцах гарадоў.

Гэтая барацьба нямінуча. Надыйдзе дзень, калі рабочыя пераможуць і будуць вольна разам з намі сьвяткаваць 1-е Мая.

У Савецкім Саюзе 1-е Мая гэта—сьвята агляду нашай работы па будаваньню новага жыцьця—соцыялізму. Замежныя буржуі з усіх сіл стараюцца перашкодзіць нам, разбурыць нашу працу. Яны ведаюць, што Савецкі Саюз—грозная і страшная сіла для багатых. І чым больш будзе расьці Саюз, тым скарэй наблізіцца іх сьмерць.

Рабочыя ўсяго сьвету сочаць за нашым жыцьцём, яны вучацца ад нас, як рабіць рэволюцыю,

працу і выйсьці дружна са сьцягамі, з песьнямі на вуліцу. Багатыя чакалі сваей пагібелі. Яны нават не спадзяваліся на ўзброеных сваіх служакаў—паліцэйскіх і войска. З вялікіх гарадоў яны ўцякалі ў вёскі, дзе было зацішней. Але рабочыя яшчэ слаба былі згуртаваны. Буржуазія іх перамагла.

як змагацца. Савецкі Саюз—іх абарона. Вось чаму працоўныя іншых краін ідуць з намі, стаяць за нас.

Нашая Чырвоная армія трымае моцна вінтоўку і пільна сочыць за тым, што робяць буржуі. Мы 1-ы Май сьвяткуем вольна. Але гэтак-жа вольна павінны сьвяткаваць сваё сьвята і працоўныя іншых краін. За гэта яны змагаюцца і даб'юцца свае перамогі.



Украінец.



Цюрк.

# Першамайская песенька

Верш А. ЯКІМОВІЧА.
Мал. А. ТЫЧЫНЫ.

Наша стройная калёна
Дружна, весела ідзе.
Поле, рэчку, луг зялёны
І усіх, усіх дзяцей
Мы вітаем
З Першым Маем!

А ўсім ворагам Саветаў
Мы адкажам сьмела гэтак:
„Сьцеражыся, пан пузаты,—
Мі сьвяткуем наша сьвята!“
Гэй, наперад, акцябраты!



Дзеці ўсіх краін і нацый,
Дзеці паднявольнай працы,
Вас вітаем
З Першым Маем!
Волі сьветлай вам жадаем!

Хай колгасамі палеткі
Закрасуюць, зашумяць.
Мы ўсе дзеткі-малалеткі
Будзем большым памагаць.



На шырокіх, вольных далях
Бацькі колгасы збудавалі.
Акцябронак бравы, юны
Пабудуе і комуну.

Гэй, да нас, да нас ідзеце,
Беднаты працоўнай дзеці!
Мы вясёлаю гурбой
Мілы Май сустрэнем свой.

Наша стройная калёна
Дружна весела ідзе.
Поле, рэчку, луг зялёны
І усіх, усіх дзяцей
Мы вітаем
З Першым Маем!





Змагацца дружна за сьвет новы—мы заўжды гатовы!

# У „ВОЛЬНАЙ“ КРАІНЕ.

*(УСПАМІНЫ АБ ПЕРШАМАЙСКІМ СЬВЯТКАВАНЬНІ).*

У 1919 годзе я жыў у Бастоне (Амэрыка). У гэтым горадзе вельмі шмат фабрык і заводаў. Сотні і тысячы рабочых.

Да імпэрыялістычнай вайны сьвяткаваньне 1-га Мая прахо-дзіла там досыць „вольна“.

Выстаўлялі ў гэты дзень больш паліцыі, дзе-ні-дзе зьяўлялася войска, часамі разганяліся дэмонстрацыі—вось і ўсё.

У 1919 годзе ў Амэрыцы запахла рэволюцыяй.

Падрыхтавалася вялікая першамайская дэмонстрацыя працоўных.

Першага Мая выйшлі на вуліцу. Вялізарны натоўп. Радасна ўзьвіваюцца сьцягі. Цьвёрдымі крокамі ідуць рабочыя, нясуць плякаты, паўзуць намаляваныя фігуры буржуяў.

„Інтэрнацыянал“ на ўсіх мовах грыміць ад хваста да галавы дэмонстрацыі.

Жывое людзкое мора. Трамваі, аўтомобілі, брычкі спыняюцца...

Магутнасьць дэмонстрацыі дзівіць і палохае паноў і „паненак“ у аўтомобілях...

Праходзім па галоўнай вуліцы. Пярэднія спыніліся. Задныя націскаюць.

Змаўкае „Інтэрнацыянал“ і адклікаецца дзесьці рэхам у хвасьце.

— Чаго сталі? — нясецца па радох.—Уперад!

Уперадзе барыкады. Штосьці звалена на вуліцы.

— Ці-ж доўга раскідаць?

Націснулі. Нешта затрашчала.

Наверсе паказаўся афіцэр.

— Назад! Назад! Вярні назад!

Ззаду афіцэра—салдаты.

— Салдаты свае. Страляць ня будуць,—крыкнуў нехта.

Націснулі яшчэ.

Бухнуў стрэл. Другі. Залп.

Калёна выгнулася бокам, кінулася па бакавой вуліцы, перастроілася. Адзін-другі паварот—і барыкада абойдзена.

Натыкаемся на другую. Зноў салдаты, страляніна. Зноў паварот—і другая барыкада таксама застаецца з боку.

Натоўп расьсердаваны.

Перад трэцяй барыкадай не зварочваем з дарогі.

— Хадзем проста! — грыміць у шэрагах.

Напор. Барыкада зруйнавана. Пачынаюць сьвістаць кулі. Хтосьці паранены. Двое ўпалі. Яшчэ.



г. Чыкаго—адзін з вялікіх гарадоў Амэрыкі.

— Тра-та-та!..
І яшчэ. Зноў падаюць.
Спыняюцца. Паварот назад.
Разыходзяцца па клюбах.

Увечары мітынгі протэсту. А раніцою—арышты. Шмат каго высылаюць...

Рабочы **І. Дудар.**

**П. Трус.**

# ПЕРШАМАЙ.

**Вясна!.. Вясна! ў далі над краем**
**Зара вяргіняю цьвіце.**
**Мы гэты дзень назвалі Маем—**
**Дзень сьветлай радасьці людзей.**

**Мінулі грозныя навалы...**
**Парваны путы—кайданы...**
**І мы магутным карнавалам**
**Вітаем маладасьць Вясны.**

**Вітаем песьняй вызваленьня,**
**Адвечнай казкаю жыцьця.**
**Няхай на славу пакаленьням**
**Над краем зоры шалясьцяць!..**

**Няхай цьвітуць, не адцьвітаюць**
**Шыпшыны сонечных зарніц!..**
**Няхай ад берагу да краю**
**Гамоняць хвалі ў цішыні!..**

**Хто з лірай плакаў пры дарозе,**
**Каго вадзіў жабрачы кій—**
**Вясьне чароўнай на парозе**
**Кладзе лаўровыя вянкі!**



# Дзяўчынка з запалкамі.

**(ПРА ЖЫЦЬЦЁ БЕДНЫХ ДЗЯЦЕЙ ЗА МЕЖАМІ).**

БЫЛА позная халодная восень. Усе лісточкі з дрэў апалі і вецер ганяў іх па вуліцы. Гразь замерзла, але сьнегу яшчэ ня было.

Аднаго разу вечарам па вуліцы ішла дзяўчынка. На ёй была падраная вопратка; голыя рукі пасінелі ад холаду; на босых нагах былі вялікія, дзюравыя матчыны чаравікі. Праз адну дзюрку выглядаў голы чырвоны палец.

Уся яна дрыжэла ад холаду і пасінеўшымі рукамі трымала перад сабой некалькі пачачкаў запалак.

Гэтыя запалкі яна сьпяшалася прадаць, каб зарабіць хоць некалькі капеек ды купіць хлеба ў хату. У цёмнай халоднай іхнай хаце ляжала хворая матка. Раней яна, калі была здаровая, працавала на фабрыцы, але зарабляла мала, і грошы адразу праядалі. Нічога ў хаце ня было апроч дзесятка запалкаў. Цяпер-жа, калі яна захварэла, на фабрыцы яе разьлічылі і ні капейкі грошай ня далі. Вось і прышлося дзяўчынцы ісьці запалкі продаць.



Стала дзяўчынка на рагу вуліцы і гукае: „Хто купіць запалкі? Каму трэба запалкі?“

А каля яе праходзяць багатыя паны. Апрануты яны ў цёплыя футры ды шапкі. Ідуць не сьпяшаючыся і на дзяўчынку ўвагі не зьвяртаюць.



Бачыць яна—нічога тут не прадасі,—перабягае на другі бок вуліцы. Раптам над вухам пачула крык возьніка: „гэй!“ Як рванулася дзяўчынка, чаравік вялікі з нагі згубіла, сама ледзь справілася ўцячы.

Азірнулася,—на вазку таўсты такі пан паехаў.

Стала яна на другім рагу вуліцы, зноў гукае:

— Каму запалкі, хто возьме запалкі?

Ужо даўно як сьцямнела, пара дахаты, а яна яшчэ не прадала запалкаў, няма з чым дахаты варочацца.

Пайшла яна сумная па вуліцы. Ногі яе адубянелі, не хацелі далей ісьці, уся яна пасінела і дрыжэла ад холаду. Яна спынілася каля вялікага панскага дому. Зірнула ў вакно—там так прыгожа, сьветла, людзей шмат і ўсе яны так хораша ды багата прыбраны, сядзяць за вялікім сталом, а на стале тым розных смачных страў многа— і мяса, і пірагоў, і цукерак, і садавіны.

Заглядзелася дзяўчынка, з месца скрануцца ня хоча, здаецца чуе пах усіх гэтых прысмакаў. Стаіць, а ногі і рукі зусім ужо замярзаюць.



„Дай,—падумала дзяўчынка, —пагрэюся крыху запалкамі“, і пачала адну за адной паліць іх ды грэць свае здубянелыя пальцы.

Калі ўсе запалкі былі спалены, дзяўчынку пачаў зморваць сон.

Позна вечарам ішлі рабочыя з фабрыкі. Убачылі дзяўчынку, паслухалі—жывая. Дзяўчынка ледзь дыхала. Яны скоранька забралі яе, каб занесьці ў больніцу. Глянулі ў акно, дзе балявалі паны, і адзін з іх сьціснуў кулакі ды злосна так кажа: „Пачакайце, дагуляецеся і вы, паганыя“.



# ПЕРШАМАЙСКАЯ ЛІСТОЎКА

*(З ЖЫЦЬЦЯ НЯМЕЦКІХ ПІОНЭРАЎ).*



ПАУЛЬ—самы жвавы растаропны піонэр у сваім атрадзе. Няма таго заданьня, якое-б ня выканаў Пауль. Звычайна яму і даручаецца самая цяжкая праца.

Перад днём Першага Мая атрад піонэраў пры Бэрлінскай фабрыцы „Унівэрсаль" атрымаў заданьне ад комуністых: расклеіць у сваім раёне адозву да ўсіх працоўных аб першамайскім сходзе-дэмонстрацыі.

Але ня лёгкая гэта работа расклеіць у горадзе адозвы, дзе на кожным кроку сачаць за парадкам тоўстыя паліцэйскія з такімі-ж тоўстымі палкамі. Асабліва пільна сачаць паліцэйскія цяпер, напярэдадні такога вялікага сьвята працоўных.

Павадыр атраду выклікаў да сябе Пауля і сказаў:

— Вось табе сотня лістовак... Сёньня-ж трэба расклеіць. Разумееш?

Дзіва, што ён разумее!

Ня відаць на вуліцы паліцэйскага. Мусіць, зайшоў дзе за вугал. І Пауль борзьдзенька, на хаду, прыклеіў да каменіцы лістоўку. Прайшоў шагоў з дзесяць і зноў прыляпіў другую.

Паліцэйскі раптам высунуўся з-за вугла і згледзеў Пауля. Ого, ён нюхам чуе пах мучнога клею, ён заўважыў знаёмую падазронную хаду Пауля...



— А-а, галубок, я-ж табе пакажу...—замармытаў паліцэйскі, і пусьціўся з гумавай палкай-даўбешкай за Паулем.

Пауль адразу-ж пачуў ззаду знаёмы цяжкі грукат... Ён кулём кінуўся ўздоўж вуліцы...

— Стой, заб'ю!...—як мядзьведзь, раве паліцэйскі.



І раптам—якое шчасьце!—перад Паулем дзірка ў сад..,

Паліцэйскі з разгону таксама шуснуў усьлед за Паулем у дзірку.

Ён так грукнуўся ў дзірку, што плот захістаўся. Але... так і завяз, як сьвіньня, у плоце. Ужо рад-бы і назад, ды галавы не дастаць.

Пауль стаіць збоку і заліваецца сьмехам.

— Пачакайце „таварыш“, я памагу,— жартуе Пауль.

Аж іскры сыплюцца з вачэй у паліцэйскага ад злосьці. Ён-бы паказаў Паўлю „таварыша“, каб мог яго дастаць.



Пауль-жа тымчасам спакойна ўзьлез на шчыкеты, перакуліўся на жывот і... ціхенька прыклеіў лістоўку да плячэй паліцэйскага. „Яго плечы ня горшыя, чым камяніца, апрача таго—жывая рэклама“—думае Пауль.

Паліцэйскі з сілаю рвануў сваю чырвоную морду і вылузаўся з дзіркі.

Ад злосьці ён толькі вылаяўся самымі адборнымі брыдкімі словамі і патрос даўбешкай у бок Пауля.

Потым адвярнуўся і, кусаючы свае рыжыя вусы, адышоўся ад гэтай праклятай дзіркі. На плячох паліцэйскага красавалася чысьценькая комуністычная адозва, на якой буйнымі літарамі было напісана:

**„1-га Мая ўсе працоўныя выходзьце на вуліцу. Кідайце працу! Прэч буржуазную ўладу ў Нямеччыне! Няхай жыве рэволюцыя!“**



Падыйдзе рабочы, спыніцца, пачытае і, усьміхнуўшыся, пойдзе сабе далей.

— Што за трасца,—мармыча сабе пад нос паліцэйскі,—чаго яны з мяне сьмяюцца?!

**Ганс Бойер.**

# Дзеткі



*Верш*
*Л. ГАЎРЫКАВА*

Мы малалеткі,
Малыя дзеткі,
Сышліся разам
У сад дзіцячы.
Вясёлым роем
Мы з трэсак робім
Ўсё вышай, вышай
Завод з трубой.
А там за плотам,
За агародам,
Навакол цэгла
Ляжыць гарой.
Сьпяшыць да ночы
Натоўп рабочых,
Таксама робіць
Завод з трубой.
Вы—малалеткі,
Малыя дзеткі,
Міне так хутка
Яшчэ пяць ґод.
І скора, скора
Вучыцца ў школу
Вы пабяжыце
Адгэтуль прэч.

# МАЛАЛЕТКІ

*Мал.*
*А. ТЫЧЫНЫ*

Як многа новых,
Зусім гатовых
Заводаў будзе
Кругом шумець.
Вось затрубілі
Аўтомобілі,
Бягуць, грукочуць:
Сядай, хто хоча!
Па ўсёй краіне
Гудуць машыны,
І самалёты
Лятуць-лятуць.
Зямлю капаюць,
Цэглу ўзьнімаюць
Машынай дужай
Высока ўверх.
Вам, малалеткам,
Вам, пяцілеткам,
Жыць будзе лепей,
Чым нам цяпер.






*Апавяданьне А. ДЫЛА.* *Малюнкі А. ТЫЧЫНЫ.*

МІХАСЬКУ 9 год. Гэта спрытны, разумны хлопчык. Вучыцца ён вельмі добра, усё хоча ведаць, усім цікавіцца.

Міхаська акцябронак. Ён з гонарам носіць чырвоную зорачку.

І дзеці любяць Міхаську, ды і як-жа ня любіць яго?

Ён вельмі чулы хлопчык, заўсёды дапамагае сваім таварышом, з усімі дружны, заўсёды вясёлы.

І ўсё то ён умее: і трактар змайструе, і чырвонаармейца намалюе, ды і другім пакажа, як рабіць.

Адна толькі ў яго бяда: маці нешта пачала хварэць. Натупаецца яна за дзень і ўвечары ледзь ходзіць. Бацькі ў Міхаські няма. Памёр бацька, калі Міхаська быў яшчэ зусім маленькім. Хлапец дапамагае матцы, як толькі можа: вады прынясе, дроў наколе, хату падмяце, у коопэратыў зьлётае.

Ах, ты, памочнік мой даражэнькі,—скажа маці і прытуліць да сябе Міхаську, а ён рады, што можа дапамагчы ёй.

Увосень у школе пытаўся настаўнік у дзяцей— у каго бацькі няпісьменныя? Запісаў і Міхаськаву маму, каб прыходзіла ўвечары ў школу вучыцца

грамаце. Але не магла наведваць школу хваравітая кабета, а вучыцца вельмі жадала.

— Кепска жыць на сьвеце няпісьменнаму,— сумавала яна:—Нават і газэты не магу прачытаць, каб ведаць, што дзе робіцца.

Зайшоў аднаго разу Міхаська ўвечары ў школьную бібліётэку, чуе, нехта ў суседнім пакоі займаецца.

„Што за ліха, —думае ён,—здаецца, што ўвечары ў школе няма заняткаў?“

Падышоў ён да дзьвярэй, зірк у дзюрачку. Бачыць—сядзяць людзі, і маладыя і старыя, з кніжкамі, і ўсе вучацца. А настаўнік ім кажа:

— Трэба добра вучыцца, бо да 1-га Мая ўсе павінны быць пісьменнымі.

Адышоўся Міхаська ад дзьвярэй і пачаў разважаць:

— А я ведаю хто, гэта — гэта бацькі вучняў. Але вось чаго не разумею — чаму настаўнік казаў, што абавязкова да 1-га Мая яны павінны навучыцца?



Нарэшце надумаўся:

— 1-ае Мая — сьвята працоўных. Пісьменны чалавек лепш можа дапамагчы ў будаўніцтве Савецкага Саюзу. Трэба ўсім працоўным навучыцца грамаце і

прыняць удзел у будаўніцтве. А мама мая няпісьменная, сумаваў Міхаська: як быць?

Прыйшоў дахаты, расклаў кніжкі і кажа:

— Мамачка, ведаеш што: я цябе буду вучыць грамаце.

Засьмяялася маці:

— Ну і настаўнік знайшоўся, сам лепш вучыся.

Доўга яны спрачаліся, але ўсё-такі Міхаська яе ўгаварыў. І з гэтага дня кожны вечар можна было бачыць, як, схіліушыся над кніжкай, маці з сынам вучылася.

Цяжка было хворай жанчыне займацца, але цярплівасьць і праца ўсё перамаглі. І Міхаська, замест таго, каб гуляць з таварышамі, цярпліва вучыў сваю матку, бо глыбока запалі яму ў галаву словы настаўніка:

— Да 1 Мая ўсе павінны быць пісьменнымі.

Прыйшло 1 Мая. Радасна Міхаську, праца яго не прапала дарма: мама яго чытае і піша. Ён ганарыцца, што і яго маці пісьменная і што цяпер ён можа сьмела адказаць настаўніку: мама мая граматная.

І маці рада, выпісала газэту, чытае.

— Здаецца другім чалавекам зрабілася, як навучылася чытаць,—разказвае знаёмым; а ўсё-ж гэта мой Міхаська, каб ня ён, дык і памерла-б цёмным чалавекам.





# ГЭЙ, ХУТЧЭЙ У ПОЛЕ!



Гэй, хутчэй, хутчэй у поле
Грамадою цэлай!
Заараці трэба ніву,
Каб дабром рунела.

Гэй за трактары, бароны,—
Жыва да работы!
Хай паддасьць нам праца
ў полі
Шчырасьці, ахвоты.

Мы засеем мігам гоні
Бульбай і пшаніцай...
Гэй да воркі, гэй да севу
На вольнай зямліцы!

Праца ў гурце будзе спор-
най,
Палягчэе доля;
Дык пакуль нам сілы хопіць,
Засявайма поле!



Масавая колектыўная гульня дзяцей на першамайскім сьвяткаваньні.

# ЛЯЦІДЗЕНКА

Алеська вельмі любіла нядзелі. Тата быў тады дома і так цікава забаўляўся з ёю альбо што-небудзь цікавае апавядаў.

Алеська цёнгле лічыла на пальцах, калі-ж, нарэшце, тата будзе дома.

— Яшчэ тры дні чакаць,—разважала сёньня раніцай дзяўчынка.

Глядзіць, а тата зусім не сьпяшаецца, як заўжды, на работу: п'е сабе паволі чай, чытае газэту.

Гадзіньнік ужо дзевяць разоў выбіў, а тата ўсё яшчэ ня зьбіраецца.

— Тата! Ты сёньня спозьнішся на работу,— затурбавалася Алеська.



*— Я сёньня не пайду на работу...*

— Я сёньня не пайду на работу, я адпачываю. Пайду з табою гуляць,—адказаў, усьміхаючыся, тата.

— Але сёньня-ж не нядзеля?—зьдзівілася дзяўчынка.

— А я цяпер часьцей адпачываю.

— Праз колькі-ж дзён? — пацікавілася Алеська.

— Чатыры дні працую, а пяты адпачываю, а раней шэсьць дзён працаваў, а сёмы адпачываў, — растлумачыў бацька.



*Завод працуе бесперапынна.*

— А чаму гэта так?

— Цяпер адпачываюць ня ўсе разам, а кожная група рабочых з нашай фабрыкі мае свае дні адпачынку: я і некалькі маіх таварышоў маем вольны дзень ад работы сёньня, іншыя заўтра, пасьля заўтра... Гэта зроблена для таго, каб машына працавала бесперапынку круглы год. Машыны, такім чынам, ніколі ня спыняюцца без патрэбы: заўсёды яны працуюць і заўсёды на фабрыцы працуюць людзі.

Алеська ўважліва выслухала і сказала:

— О, дык гэта-ж вельмі добра: і менш рабіць прыходзіцца і больш машыны вырабу дадуць, калі будуць працаваць кожны дзень.

— Але-ж, але-ж, для гэтага-ж і пяцідзёнка вось уведзена,—кажа бацька.—І рабочым лепш, і вырабу больш будзем мець.

К. ДМІТРАВА.








# ШАЛЁНЫ САБАКА

Апав. Л. Чарняўскай

Мал. Е. Саматыя.

МІХАСЬКА сірата і бацькоў сваіх ня памятуе. Выгадаваўся ён у дзіцячым доме. Яго бацька і матка, уся радня— гэта шумлівая, часам крыклівая, вясёлая грамада дзяцей у дзіцячым доме.

Вось ідзе ён па вуліцы з школы ў дзіцячы дом, часам сходзіць на бок, коўзаецца па замёрзлым раўчаку.

Раптам адзаду чуе крыкі: „Ай, ай, укусіў!.. Трымайце яго, беце яго."

Азірнуўся Міхаська, але ня справіўся ён аглядзецца, як да яго цішком падсунуўся чорненькі сабачка, падскочыў і цоп за руку. Ня дужа забалела, толькі заныла крыху і кропелькі крыві выціснуліся на ўкушаным месцы.

Спалохаўся Міхась, стаў. Бачыць: недалёчка жанчына стаіць, уголас плача, рукой трасе, і ў яе з рукі кроў капае.

І да Міхаські людзі падбеглі: „Што, укусіў? Дзе? Пакажы? Дзе ты жывеш? Гэта-ж шалёны сабака...

А Міхаська ледзь дух зводзіць, сказаць нічога ня можа. І нібы чужымі, не сваімі вачыма ўбачыў ён, як наперадзе ад яго, на мосьце нейкі вайсковы забіў стрэлам сабачку.

Усё гэта так хутка адбылося—у адну хвіліну.

Жанчына, вохкаючы, села на возьніка і паехала. А каля Міхаські цэлы натоўп сабраўся. Кожны новы чалавек, што падойдзе, даходзіць у чым справа.

Міхаська ўжо апрытомнеў. Расказаў,—хто ён і адкуль.

Яму раяць: „Хутчэй варочайся ў школу, бліжэй туды".

А Міхась адказвае:

— Не. Пайду ў дзіцячы дом. А то загадчыца падумае, што я так дзе па вуліцах бадзяюся.

І пайшоў. Пацягнулася за ім некалькі цікавых, аж у самы дзіцячы дом праводзілі.

Дзеці, даведаўшыся пра здарэньне з Міхасём, абступілі яго кругам. Глядзяць на яго з подзівам і са страхам. А нечы жаласны голас прамовіў:

— Што-ж гэта будзе, ашалее Міхаська?

— Што ты гэта гаворыш, Костусь?—з дакорам запярэчыла Марына Іванаўна, загадчыца дому.

— Ты ня бойся, Міхасёк. На твою больку ёсьць лекі. Вось мы з табою зараз сядзем на трамвай, і я цябе завязу ў Бактэрыолёгічны інстытут. Там табе зробяць разоў колькі прышчэпку і хадзі сьмела...

Міхаська павесялеў крыху, хоць яшчэ і ня мог стрымаць дрыжыкаў.

Ехалі трамваем праз увесь горад. Дзень быў не марозны і Міхась увесь час пазіраў праз вакно. Бягуць міма будынкі, людзі на тратуарах, школа нейкая даўгім парным ланцугом расьцягнулася і прамільгнула міма. Праразьлівым званком ачышчае трамвай сабе дарогу.

— Ну, тут нам выходзіць,— узьнялася з месца Марына Іванаўна, і Міхась устаў.



*Сабачка падскочыў і цоп за руку.*

Вылезьлі, збочылі ў завулак.

- Цётка Марына,—спытаўся Міхаська,—а гэта балець будзе, калі прышчэпку зробяць.

Нічога, цярпець можна. Сабака балючэй укусіў.

— А як гэта шчэпяць? Як воспу, у руку?

— Не, у жывот. І чаго ты палохаешся так, нічога страшнага няма.

Яны ўбачылі дом з доўгаю шыльдаю: „Бактэрыолёгічны Інстытут".

Марына Іванаўна агледзелася і павяла Міхася ў тыя дзьверы, дзе было напісана „Прыём".

Там у пакоі сядзела некалькі чалавек, і спаміж іх Міхась пазнаў цётку, што перад ім укусіў сабака. Яна ўжо не галасіла, а і цяпер ўсё памахвала ўкушанаю рукою.

— Цётка Марына, — крануў Міхась загадчыцу за руку. Вось гэтую цётку таксама той сабака укусіў.

Жанчына пачула.

А, і ты, хлопчык, пад зуб шалёнаму сабаку трапіў. Вось гэтак і я... Ішла сабе з коопэратыву, на благое не спадзяючыся. Ці мала сабак бегае? А ён мяне хоп за руку, усе зубы ўсадзіў. Трэба-ж так, што гаспадар ня бачыў, што сабака ашалеў, пусьціў яго з двара ўцячы. Можа бегае яшчэ і кусае людзей.

— Не,—усьцешыў яе Міхаська.—Ён ужо ня бегае. Я бачыў: яго вайсковы на мосьце забіў з рэвольвэру.

Марына Іванаўна запісала Міхася на прыём.

Ён толькі трошку зморшчыўся, калі доктарка, адцягнуўшы яму скуру на жываце, укалола шпрыцам.

- Заўтра раніцой а дзевятай гадзіне прыдзеце. Усіх уколаў шаснаццаць прыдзецца зрабіць...

— Марына Іванаўна, — спытаўся Міхась, калі яны ўжо выйшлі на вуліцу. Чаму гэта завецца „Бактэрыолёгічны Інстытут?" Слова такое цяжкае, ледзь вымавіў...

— Тут, мой каток, дасьледуюць розныя бактэрыі. А бактэрыі, калі хочаш ведаць, гэта такія маленькія, малюсенькія істоты, правільней казаць ніжэйшыя організмы. Яны такія маленькія, што іх без павялічальнага шкла і ня ўбачыш. Бактэрый усюды поўна. Носіць іх вецер разам з пылам, аж кішаць яны ў стаячай вадзе... Усе заразлівыя хваробы: шкарлятына, тыфус, дыфтэрыт і іншыя разносяцца праз гэтыя бактэрыі. Іх завуць яшчэ бацыламі. Ёсьць бактэрыі і не шкадлівыя...

Але я цяпер раскажу табе пра выдатнага чалавека, вялікага вучонага Люі Пастэра. Быў ён родам француз, радзіўся ў 1822 годзе. Ён гэта і стварыў навуку пра бактэрыі. Усё свае жыцьцё ён дасьледваў розныя віды бактэрый, а з 1877 году пачаў дасьледваць бацылу шалу і знайшоў спосаб захаваць укушанага шалёнаю жывёлаю ад заражэньня.

Свае досьледы ён рабіў над трусамі. Ён браў ад хворых на шал трусоў мазгі з хрыбта і


*Вось гэтую цётку таксама той сабака ўкусіў.*

высушваў іх. Высушаная-ж атрута ў значнай меры траціць сваю моц. Спачатку Пастэр браў зусім слабую рошчыну зробленага ім лякарства і ўспырскваў пад скуру здаровым трусікам. Потым з дня у дзень ён успырскваў значна мацнейшую рошчыну. Цяпер да трусоў не прыставала шаленства. Далей ён прышчэпліваў ім сьвежыя мазгі ад хворае жывёлы, і трусы не захварэлі на шал.

У 1885 годзе Пастэр зрабіў першую прышчэпку хлопчыку Юзіку Мэйстару, вось такому як ты, гадоў дзевяцёх. Яго быў моцна пакусаў шалёны сабака. Хлопчыка выратавалі прышчэпкі. З таго часу пачалі прышчэпкамі захоўваць ад заражэньня шалам людзей, укушаных шалёнаю жывёлаю. Пачалі адкрываць Пастэраўскія інстытуты. Там здабывалі рошчыну для прышчэпак.

У нас, да рэволюцыі, такіх інстытутаў было няшмат, толькі

па вялікіх гарадох. Цяпер-жа ў нашым Саюзе сетка гэтых інстытутаў значна пашырылася.

— А хто шалее з жывёлы? Толькі сабакі ды трусы?

— Кожная жывёла можа ашалець, калі яе ўкусіць шалёная жывёліна. Хоць і ня кожная канечна шалее. Зараза-ж трапляе ў кроў разам са сьлінаю шалёнае жывёліны.

— Во страшна, мусіць, калі карова ці бык шалее. Гэта-ж ён лётае тады, як шалёны.

Марына Іванаўна засьмяялася.

— Бо ён тады сапраўды шалёны. А праўда, страшна глядзець на шалёнага каня ці карову. Я раз на свае вочы бачыла ў вёсцы шалёную карову. Яе заперлі ў хляве, а мы, узьняўшыся па драбінцы, глядзелі на яе з таго боку сьцяны. Яна кідаецца па хляве, ды як дасьць, як дасьць рагамі ў сьцяну, потым схапіла кармушку на рогі і носіць, бразьне вобзямлю, і зноў падхопіць. І страшна глядзець і шкода... Карову забілі, як толькі яна суцішылася троху і далася гаспадыні вывесьці з хлява. А гной з хлява вывезьлі і закапалі, бо дужа многа нацякло ў каровы з роту сьліны і пены.



Людзей найбольш кусаюць сабакі. Памятуеш, тая цётка ў пачакальні наракала на гаспадара, што даў уцячы з двара шалёнаму сабаку. Сапраўды гаспадар вінаваты. Сабака не шалее адразу. Як толькі хвароба пачне забіраць яго, ён робіцца невясёлым, ня есьць, хоча кусацца, кідаецца спачатку на хатнюю жывёлу: сабак, катоў, кароў, коняй, сьвіней. Брэша ён тады хрыпатым брэхам з кароткім выцьцём. Вось калі ёсьць такія падазроныя адзнакі, яго канечна трэба пасадзіць на ланцуг. Калі сабаку не прывязаць, ён уцячэ з двара і будзе кусаць кожнага, каго напаткае. Шалёных сабак стараюцца забіваць пры першай магчымасьці, але калі, выпадкам, шалёнага сабаку ня ўдасца забіць, яго усёроўна праз некалькі дзён спараліжуе, і ён здохне.

Вось мы з табой, Міхаська, гамонячы, паўдарогі ўвайшлі. Ня варта ўжо садзіцца на трамвай. Дойдзем.




*

На краі дубровы,
На краі паляны
Ліпа з адмысловым
Узьнялася станам.
У ліпе той, надзіва,
Доўгім цягам часу
Зроблены рупліва
Дуплаў выкрутасы.

Там у хатках шэрых,
Хатках невясёлых
Добрыя кватэры
Мелі сабе пчолы.
Ледзь загляне золак—
Пчолкі мітусяцца,
Бо заўсёды-ж пчолы
Рупныя да працы.

*

У каморы позна
Устаў-прачнуўся труцень.
Шавеліць вусамі,
Галавою круціць.
У вакенца сьвеціць
Сонца залатое.



— Штосьці зноў сягоньня
Ў кепскім я настроі?
Вусікі крутыя
Зьвісьлі ў непарадку.
— Гэй! гарбаты, лёкай!..
Труцень плешча ў ладкі.



Тут прыносяць служкі,
Стаўшы у чароды,
Ў лісьціках і сподках
Ліпавага мёду.

А усьлед з дакладам
Гужам маткі-пчолы
Хіляцца з паклонам
Нізенька да долу.
„Так і так“... гавораць.
Хілячыся нізка:—
„Шмат прыносяць мёду
Пчолкі-працаўніцы“...
— Мала, вельмі мала!..
Труцень вымудрае.



І выходзяць маткі
Шчыльнымі радамі.

*

На кару дупла пад вечар
Наляцела пчол з паўроя.
Баюць горача аб нечым,
Мітусяцца чарадою.
Не ляцяць яны ў хаткі,
Пчолку слухаюць махнатку:

— Хіба-ж гэта можна,
Хіба-ж гэта—праўда?!..
Выядае труцень
Нашы соты заўжды.
Ліпавыя соты
Есьць ён з місак срэбных.
Хіба гультаі нам
Гэткія патрэбны?!.

— Не!..—узьняўся цэлы рой.
— Нам ня трэба гультаёў!..
— Ша-а! маўчыце!.. Годзе, годзе...
Вось жаўнеры падыходзяць...



*

Папалохаліся пчолы,
Сталі гужам невясёлым...
... А жаўнеры ў адну хвілю
Іх махнатку захапілі
І ў дупле, у цішыні
З ёю зьнікнулі яны...

*

У пчаліным стане
Загарэлася паўстаньне...
У паўстаньні, шырай-шырай,
Ўвесь гарыць пчаліны вырай.

На становішчы вайсковым
Абвясьцілася ўсё дрэва...
І направа і налева



І ў гары, і ў нізе шнараць
З добрай зброяю жандары.
Але пчолкі дружна сталі,
Ня кідаюць забастоўкі,
Рассылаюцца лістоўкі,
Клічуць іншых на паўстаньне.
Трутня цягнуць з тых палацаў
Ды расстрэльваюць на пляцы.

*

Стала пчолкам-працаўніцам
З таго часу леней жыцца...
Бяз прыгнёту ды прыгону
Паляцелі дні разгонна.
І ў комуне той пчалінай
Праца йдзе цяпер няспынна.

ВЫДАВЕЦТВА ЦК АКСМБ
„ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“

Рэдкалегія: ГАРБУЗ П. (адк рэдактар).
РАЦЭВІЧ В., ЯКІМОВІЧ А. (адк. сакратар).

ЦАНА 18 КАП.






Адгадайце назву кожнага малюнку. З першых літар назваў і з усяго малюнку цалкам зложыце лёзунг.

# ЗАГАДКІ САМІХ ЧЫТАЧОЎ

**Друкуем загадкі наступных дапішчыкаў: Заброцкай Любы, Лугляпава Паўла, Заброцкага Флора, Сарагаўца Амяльяна.**

1. Брат брата сячэ, белая кроў цячэ.
2. Прыйшоў госьць ды і пад лаўку палез.
3. Воўк жалезны, хвост ільняны.
4. Бяжыць ваўчок, асмалены бачок.
5. Поўна бочка круп, а наверсе струп.
6. Цэлы хлявец белых авец.
7. За белым бярэзьнічкам талалай брэша.
8. Быў клін, стаў блін, цяче вада, а мне не бяда.
9. Браты за братамі гоняцца, а дагнаць ня могуць.
10. Сям'я душ трыста, багата, а ўсяго два локці хата.

## ШАРАДЫ.

Маё першае—лік.
Маё другое—літара.
А ўсё разам—тое, што
Ёсьць у кожнай хаце.

*

Маё першае пачуеш тады, калі чаго-небудзь не хапае.

Маё другое—у кожным гумне ёсьць.

Усё разам—прылада, якая ёсьць у кожнага каваля.

Друкарня БДВ. Зак. № 1679. У ліку 4700 экз. Галоўлітбел № 1779.